У нумары: Замест моднай гутаркі · Першыя · Беларуская мова і зацікаўленне ёю ў Польшчы


# Ніва

АРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 24 (433) | ГОД IX | 14 ЧЭРВЕНЯ 1964 г. | ЦАНА 60 ГР.


МАКСІМ ТАНК

## ПАРТЫЯ

Партыя.
Я — адзін з яе радавых.
Я — адна толькі хваля таго акіяна,
Што грудзямі прабіў
У ільдах векавых
Шлях Гальфстрыму,
Шлях сонцу нябачнага рання.

Партыя —
Выпрабаваны ў баях карабель.
Я — адна толькі нітка
Ў тых ветразях у пурпуровых,
Што гісторыі подых
Нясуць на сабе
І не ведаюць стомы
У штормах суровых.

І калі хваля згасне
На дзюнах сцюдзёных, нямых
Або новыя ветразі
Ўздымуць пад хмарамі крылы —
Песню я сваю ўскіну на мачту,
Між рэяў тугіх,
Каб у даль заклікала яна
Плыць за казачныя небасхілы.




## СЭРЦА НАРОДУ

У гісторыі кожнага народа ёсць даты, якія бы вехі вызначаюць самыя важныя моманты пройдзенай дарогі. Дату 15 чэрвеня 1964 года нашыя дзеці будуць вывучаць на ўроках гісторыі роднай краіны. А на пытанне настаўніка, што тады здарылася, адкажуць: у Варшаве пачаўся **IV З'езд Польскай Аб'яднанай Рабочай партыі.**

Як мозг кіруе працай людскога арганізма, так партыя вызначае рытм жыцця грамадскасці нашай радзімы. Успомніце хаця б першы трохгадовы план ліквідацыі пасляваенных развалін, прывядзіце на памяць наступныя шасцігадовы і цяперашні пяцігадовы планы будовы гаспадарчых асноў сацыялістычнага строю ў нашай краіне. Усе яны прымалі свой канцовы выгляд у час папераджаючых іх чарговых партыйных з'ездаў. У іх сабраны думкі і развага членаў партыі і яе правадыроў.

У гушчы жыцця, сярод мноства штодзённых спраў і турбот рэдка калі ясна і адчувальна ўяўляем сабе грамадную ролю партыі ў жыцці кожнага з нас. Проста не заўважаем гэтага, здаецца нам, што нашае асабістае жыццё праходзіць неяк побач дзейнасці партыі.

Завядзіце аднак гутарку са старэйшымі сялянамі. Адразу пасыплюцца дзесяткі прыкладаў. У кожнай вёсцы назавуць такіх людзей, якія хадзілі ад памешчыка да памешчыка, ад багацея да багацея і прасілі міласці шаноўнага пана, каб захацеў за адну залатоўку ў дзень (вартасць аднаго кг цукру) узяць іх да працы. У Беластоцкім ваяводстве налічвалася тады каля 86 тысяч непатрэбных сялян. Ім не хапіла зямлі, а ў горад дарога была закрыта. Там рабочых страшыла пастаяннае беспрацоўе.

Запытайце маладых і старэйшых, калі прыедуць у вёску правесці водпуск або свята, дзе яны працуюць, што робяць, дзе вучацца? Назавуць дзесяткі гарадоў, рассеяных па ўсёй краіне, пералічаць сотні заводаў, школ і устаноў. Паглядзіце на палі, паслухайце грукат трактароў, малатарняў і другіх машын.

(Працяг на стар. 2)

## ПЕРШЫЯ

Нямецкія салдаты бараніліся заўзята. Гарадок па некалькі разоў пераходзіў з рук у рукі. Тварылася сапраўднае пекла. Потым загрукаталі «кацюшы» і стала ціха. Толькі недзе з-пад Беластока даходзілі водгукі фронту.

Гэтага ж самага дня — **22 ліпеня 1944 года** — у Хэлме пад Люблінам **Польскі Камітэт Нацыянальнага Адраджэння** аб'явіў свету свой гістарычны **Маніфест.** Яго натхнёныя словы дайшлі ў Гарадок крыху пазней. Але людзі, звычайныя жыхары Гарадка, раптам пачулі гэтакую палёгку, што ў сэрцы не магла яна змясціцца.

**— Ніхто не сядзеў у хаце,** — успамінае Раіса Кандрусік — тады маладзенькая яшчэ дзяўчына, цяпер настаўніца. — Дзень і ноч хлопцы і дзяўчаты хадзілі па вулічках мяс-

(Працяг на стар. 5)

## ЗАМЕСТ МОДНАЙ ГУТАРКІ...

Дзядзькі любяць дзівавацца, як гэта хутка ідзе наперад жыццё, перамена за пераменаю. Рух вялікіх гарадоў выліваецца на сельскія гасцінцы. У заглохлым мястэчку Крынкі паўсотні барадатых дзядуляў на курсе вучыцца, як трэба хадзіць — ездзіць па перадваенных завулках, каляінах. У прыбелавежскай вёсцы Дубічы - Царкоўныя пакуль што, здаецца, толькі матацыклісты разумеюць мову шасэйных каляровых знакаў. Аднак, пішучы аб пераменах у тутэйшым жыцці, я не маю на ўвазе новенькіх «эмзэтак» ды «вуэфэмак», якія заносяцца ад пырхлівага рогату на зялёнай вуліцы (куры не палохаюцца, прывыклі). Матацыклы цяпер ужо не з'яўляюцца меркай агульнага багацця: іх роля — падмяняць пасажны куфар пераборліваму кавалеру.

★

Раскалочаны гасцінец з Дубіч-Царкоўных у Старакорніна падстрыжаны раўнюсенькімі лініямі бакавых равоў, пад шнур — дзве вярсты альбо 2.000 метраў, як гаворыць заўсёды дакладны тав. Мікалай Чыквін. Ён — сакратар грамадскага камітэта партыі і старшыня дубіцкай ГРН у адной асобе. Груды пясчаных выемак распаўзаюцца пад нашымі нагамі, па кост磨. Ідзем глядзець гэтыя 2.000 м. будучай гладкай дарогі, якая будуецца па ініцыятыве мясцовай партарганізацыі ў гонар IV З'езда Польскай Аб'яднанай Рабочай партыі. Яшчэ два — тры гады таму назад нікому не прыходзіла ў галаву займацца палявымі пуцінамі.

(Працяг на стар. 4)



**Перад выездам у поле. Старшыня сельскагаспадарчага гуртка тав. Іван Чыквін (справа) гаворыць з трактарыстам Ю. Леанюком.**




**В. РУДЧЫК:** Старакорнінскія помнікі.

**С. ЯНОВІЧ:** У Грыгораўцаўскай старонцы.

**А. СТАРЫЧКОЎ:** Тайна крамлёўскага падзямелля.

**ДЗЯДЗЬКА ЛЯВОНЬ:** Пры экзаменах.






Падымаюць на «ура» перамогу.

### ТРЭЦЯЯ УЗЯЛА

— Што купіў, кум Іван?
— Паліто. А ты, Сцяпане?
— Новыя боты.
— Замочым?
— Па-а-йшлі...
Выпілі па першай шклянцы.
— Не бярэ, кум Іван, трасца яе матары...
— Давай па другой, кум Сцяпан!
Кульнулі па другой.
— І другая не бярэ, Сцяпане. Давай па трэцяй...
— Уставай, кум Іван, трэцяя ўзяла.
— Што ўзяла?
— Тваё паліто, а мае новыя боты.

## Як стала жонкаю

— Помніш, ты ў мінулым годзе часта прыходзіў у парк з адной дзяўчынай?
— А, гэта з Ірынай...
— А чаму цяпер адзін?
— Дык жа яна стала маёй жонкаю.






Вагайся, калі хочаш даказаць, што маеш нейкую вагу.



— Усе гавораць, што ён выключна развіты на свой узрост.

### ЗЛАЧЫНСТВА

— Мілая жонка, я цябе так кахаю, што магу нават пайсці з-за цябе на злачынства.
— Якое?
— Пакінуць цябе і жаніцца на другой.

### КАМУ ШТО

**Крот, вылезшы з нары, Прагаварыў:**
**— Кепска жыць на гэтым свеце —**
**Навокал сонца свеціць.**

**Павел Шыбут**

### У ЧАЙНОЙ

— Афіцыянт, я ж вам на чай даў.
— Я помню, дзякуй. А чаго ж яшчэ чакаеце?
— Чаю.
— А ў нас яго не бывае.

### АХОЎНІК ПАРАДКУ

На вуліцы п'яныя пачалі хуліганіць. Непадалёку стаяў на пасту міліцыянер.
— Грамадзянін міліцыянер, — звярнулася да яго жанчына, — глядзіце, які беспарадак!
— Я пастаўлены сачыць за парадкам, а не за беспарадкам, — адказаў міліцыянер.

## СПРАВЫ КАРЭСПАНДЭНЦКІЯ

Выставіўшы кончык языка ад натугі, Кастусь вязаў літары.

— Пішаш радаслоўную нашай каровы? — спытала жонка.

— Не жартуй, пішу аб працы скупшчыкаў яек, — адазваўся Кастусь і вытлумачыў: — У скупачных пунктах бюракратызм. Зімою ад бяздзелля іржавее вага, а ў сезоне да скупшчыка не даб'ешся.

— Барадаўка на ілбе сакратара цябе таксама тычыцца? — задала пытанне жонка.

— Карэспандэнта ўсё тычыцца, — адазваўся Кастусь.

— Бачыш ты! Хто ж назначыў цябе на гэту высокую пасаду? — пацікавілася жонка.

— Карэспандэнты самі выяўляюцца з асяроддзя вясковага актыву, — павучальна вытлумачыў Кастусь.

— Калі ты актыўны, тады сып. Табе таксама насыплюць. Ды так, што удваём не збярэм. Наш скупшчык — зяць старшыні.

Ад неспадзяванасці Кастусь папярхнуўся. Адсунуўшы напісанае, ён прамармытаў:

— Вазьму пад пяро нашу пошту.

— Пішы, ды не спяшы, — параіла жонка. — Загадвае поштай жонка ўпаўнаважанага кантролю.

— Не баюся, усё роўна апішу, — упёрся Кастусь.

— Дзейнічай, я тым часам падрыхтую табе дзве змены бялізны і коўдру.

— Лішняе. Я ў парадку. Да мяне і ў пальчатках не дакрануцца, — храбрыўся Кастусь.

— Параграфам падчэпяць кожнага, быў бы чалавек, а артыкул да яго знойдзецца, — сказала жонка.

Кастусь задумаўся, затым сказаў:

— Хай пошта правальіцца к чорту! Напішу аб нашым аграпункце.

— Гэта можаш. Шэфам над аграпунктам з'яўляецца таварыш Ясны, — сказала жонка.

— З зямельнага аддзела гэты Ясны? — спытаў Кастусь.

— Той самы.

— Аграпункт астаўлю.

— Апішы нашу вуліцу, па якой свінні швэндаюцца, — параіла жонка.

— Не падыдзе. На тое і вуліца, каб па ёй хадзіць.

— Страчы па былому старшыні сельгасгуртка, — падала думку жонка.

— Аб Рыгоры? Ён жа памёр.

— Тым лепш, не адклікнецца.

Пачухаў Кастусь патыліцу і сказаў:

— Няёмка пісаць аб нябожчыку дрэнна. Выходзіць, няма ў нас у вёсцы аб чым пісаць.

— Няпраўда, — запратэставала жонка, — тэмы растуць, бы жыта.

— Адказваюся ад гэтай пасады, хачу жыць спакойна, — сказаў Кастусь.

— Правільна, — падтрымала жонка. — Ідзі, вычысці хлеў. Для карэспандэнта вострае пяро і вілы — аднолькава добрыя.

Кастусь паплёўся да хлява, куды дарога была карацейшая і бяспечная.

Дзядзька Лявон

## УСЯЧЫНА



Клара Гардон (іграла ў «Лізе джэнтэльменаў») шмат разоў зняняла колер валасоў, пакуль не пераканалася, што мужчыны аднак аддаюць перавагу... бландзінкам. «Яшчэ некалькі год назад я думала, — сказала актрыса, — што гэта не мае ніякага значэння. Потым аднак змяніла сваю думку».

### ДУМКІ ЯСЬКІ АПАЛОНІКА

**Каб іграць камусьці на нервах, зусім не трэба мець добрага слыху.**

**Той, хто заўсёды памятае аб сабе, вельмі часта забывае людзей.**

**Хто сее, ніколі не лічыць зерняў.**

**Дзяцінства можна параўнаць з ружовым сном.**

**Слава падобная да звана з вырваным сэрцам.**

## Тры рэкорды

Горад Сан-Францыска (ЗША) з'яўляецца уладальнікам трох усеамерыканскіх рэкордаў: па колькасці самагубстваў, па колькасці разводаў і па ўжыванню алкаголю. Рэкордная колькасць самагубстваў у Сан-Францыска ў немалой ступені садзейнічае наяўнасць у горадзе славутага моста «Голдэн гайт» вышынёю ў 70 метраў, а ўжыванне алкаголю і разводы знаходзяцца ў непасрэднай залежнасці ад законаў штата, больш мяккіх, чым у іншых частках краіны. На кожныя два шлюбы, заключаныя тут, прыпадае адзін развод.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Марысі Крук з Тынявіч Малых, Гайнаўскага павета, змяшчаем папулярную савецкую песню

## ПЕСНЯ О ЩОРСЕ

**Шел отряд по берегу, шел издалека,**
**Шел под красным знаменем командир полка.**
**Голова обвязана, кровь на рукаве,**
**След кровавый стелется по сырой траве.**
**Эх, по сырой траве!**

**«Хлопцы, чьи вы будете, кто вас в бой ведет?**
**Кто под красным знаменем раненый идет?»**
**«Мы сыны батрацкие, мы — за новый мир,**
**Щорс идет под знаменем — красный командир.**
**Эх, красный командир!**

**В голоде и в холоде жизнь его прошла,**
**Но недаром пролита кровь его была,**
**За кордон отбросили лютого врага,**
**Закалились смолоду, честь нам дорога .**
**Эх, честь нам дорога!»**

**Тишина у берега, смолкли голоса,**
**Солнце книзу клонится, падает роса.**
**Лихо мчится конница, слышен стук копыт,**
**Знамя Щорса красное на ветру шумит.**
**Эх, на ветру шумит!**

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 25-39, centrala 37-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wilcza 46, Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA. Nakład 5458. Bltk L-3